№. 2. Цана 50 гр.



# Вучнёўскі Звон

Год выданьня II.
Люты — 1930

# ВУЧНЁЎСКІ ЗВОН

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ ВУЧНЁЎСКАЙ МОЛАДЗІ
ВІЛЕНСКАЙ БЕЛАРУСКАЙ ГІМНАЗІІ.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Вострабрамская 9.

Год II Люты 1930 г. № 2.




## Ад Рэдакцыі.

На наш заклік да супрацоўніцтва з намі адгукнулася вучнёўская моладзь бел. гімназіяў Заходняе Беларусі й выявіла жаданьне расшырыць нашу часопісь, як ворган усяе беларускае вучнеўскае моладзі. Такім чынам, ад наступнага нумару ў „Вучн. Зв.“ будудь зьмяшчацца творы вучняў Віленскае, Наваградзкае й Клецкае гімназіяў. Зразумела, што гэтае шэрэйшае супрацоўніцтва выкліча павялічэньне „Вучн. Зв.“ й абагаціць яго зьмест. Трэба адзначыць, што ў нашай працы мы напатыкалі паважныя перашкоды, перадусім матэр‘яльнага характэру. Цяпер перад „Вучн, Зв.“ адчыняцца новыя магчымасьці й мы здолеем паставіць належна выдавецкую справу часопісі. З часам можна будзе рэпрадукаваць рысункі нашых маладых мастакоў і т. д.

Падамо сабе рукі ў нашай працы!

*Рэд. „Вучн. Звону“.*

# Нашым крытыкам!

Адказ на адказ у „Шляху Моладзі“ № 2.

*Difficile est satiram non scribere.*

Ня маючы намеру ўваходзіць у якую-колечы палеміку з „Ш. М.“ наагул, мы хочам толькі выявіць усю нелягічнасьць закідаў, стаўляных „Ш. М.“ нашай часопісі, і тое вялікае духовае аплытчэньне, якое пануе сярод часткі беларускае моладзі, а што дзіўней — нават сярод некаторых студэнтаў. З сваей стараны заяўляем, што за ўсякую об'ектыўную крытыку мы будзем удзячны. На памылках усе мы вучымся. „Ш. М.“ сваіх памылак ня прызнае, а наадварот піша „пахвалу свайго глупства”, у якой апявае сваю бязглузьдзіцу. З гэтага вывад, што об'ектыўнай крытыкі ад „Ш.М.“ чакаць ня можна. Вельмі сумна, што бруд лаянкі й грызьні й лёзунг „гаў-гаў“ пранік і ў моладзь. Яблычка ад яблыні далёка не адкоціцца.

Перадусім, трэба прызнаць, што ня ўсе людзі аднолькава думаюць. У гэтым шчасьце чалавецтва! Беларускі рух ужо настолькі разросься, што аднае меркі да яго прылажыць нельга. Забараніць думаць так, а ня йнакш мы ня маем права. „Ш.Мол.“ ня хоча з гэтым згадзіцца. Ен хоча, каб усе думалі як ён і абураецца, калі нехта зайграе ня ў дудку з ім. „Мы—павадыры моладзі!“ – кажа рэдакцыйная калегія „Ш. М.“ і два студэнты Ф. Леўша й Я. Малецкі пацьвярджаюць, што сапраўды гэта так, а ня йнакш.

„Шл. Мол.“ налажыў конскія акуляры й глядзіць на сьвет. „В. Звон“, піша „Шл. Мол.“, „прабуе нават змагацца з тымі, хто працуе на беларускай нацыянальна-грамадзкай ніве“ і далей пытаецца, каму гэта патрэбна цытата з твору Есеніна. А мы спытаемся: каму яна непатрэбна? І адказ будзе: т о л ь к і „Шл. Моладзі“. А далей С., аўтар стацьці, ужывае ўжо зусім па конскі словаў Есеніна для сваіх блізарукіх разважаньняў („машет рукавом“ дыктатара?!..).

Цытата з Есеніна, узятая з цэлае літэратурна-крытычнае стацьці, даказывае інтэлектуальную недасьпеласьць С., а адсюль і рэдакцыйнае калегіі. „Шл. Мол.“ чытае біблію й катэгарычна абвяшчае—„Няма Бога!“ бо — во!— у бібліі напісана „няма Бога”, а далейшыя словы: „сказаў бязумец” „Шл. М.“ не дачытывае. Гэта значыць, што Шл. М.“ ня ўмее стаўляць лягічных знакаў прыпынку. Ен вырывае кавалачак з цэлага й дэдуктыўным мэтадам (ня дзіва — у „Шл. Мол.“ ёсьць і багасловы!) даказывае слушнасьць сваіх разважаньняў. І „Шлях Мол.“ рады, што ён можа даказаць „беласьць чорнага“.

Браво!

На „фашызмы“ й іншыя „ізмы“ мы ня зьбіраемся й адказываць, бо яны літара ў літару пахнуць „Крыніцай“.

Мы толькі даем лекцыю лёгікі. Відаць адразу, што С. ня чытаў „Малюнкаў", бо ён ня мае ніякага паняцьця аб „волаце" Машары. С. ухапіўся за цытату й сьмяецца — во! ён адкрыў Амэрыку! Цяпер хай С. пасьмяецца сам з сябе, узяўшы ў рукі „Малюнкі". Волат — гэта сялянства, якое, як зусім правідлова піша С., „знаходзіцца ў страш лівай бядоце". „Шл. М." настолькі блізарукі, што ня можа разумець самае сутнасьці крытыкі літэратурнага твору. С., а тым самым і „Шл. М." здаецца, што трэба абмежавацца кітайскай сьцяной і прамаўчываць тое, што навокала нас дзеецца. Есенін пісаў па расейску! А! — не пабеларуску? Дык ня трэба яго! — кажа С. Cezak напісаў папольску „Гаспадарчую геаграфію"! А!—не пабеларуску? ня трэба яго — кажа С. Дакумэньцікі варварства й шовінізму, якія гавораць самі за сябе. І ці не таму вінаваціць „Шл. Мол." нашу часопісь у „неадпаведнай дарозе" й т. п., што былі ўведзены цытаты з Есеніна? Такія выразы, як „машет рукавом дыктатара" гэта тое самае, што аплёўваньне С.—ам Есеніна, якога цэніць і чытае ўся сучасная інтэлігэнцыя! Выбачайце! Міма гэтага нельга моўчкі прайсьці! У вышуківаньні прычэпак ня можна даходзіць да такіх крайнасьцяў. „Вучн. Звон" не залежыць ідэйна ні ад каго, бо самі вучні ў ім працуюць, а „Шл. Моладзі" ня бачыць бервяна ў сваім воку.

Мы лічым, што об'ектыўная крытыка вельмі патрэбная. „Шлях Мол." не адважыўся нават прызнаць памылкі, што да найніжэйшае тэмпэратуры ў Верхаянску, а згадзіўся з С. і двума вышэйуспомненымі студэнтамі, якія ссылаюцца на пэўныя жаралы. Прычым С. даходзіць да такое бязглузьдзіцы, што не прызнае „Гаспадарчай геаграфіі" Цэзака, бо яна з Варшавы (?!). Ну, хіба ўжо жаралы „Шл. Мол." належаць да багасловаў! Скажыце, якія гэта жаралы? Калі вы ў геаграфіі шукаеце „машет рукавом дыктатара", дык паглядзіце ў А. Смоліча на 26 стр. у „Геаграфіі пазаэўрапэйскіх краін" (беларускае жарала), дзе чорным на белым напісана—70° С.

Студэнты Ф. Леўша і Я. Малецкі лістом з лірычнымі адступленьнямі й на-пеўным заключэньнем дапаўняюць „крытыку" С. Мы даведываемся, што яны студэнты (п. в. 1-га курсу — пр. Рэд.), што „Шлях Моладзі" мае ў ліку супрацоўнікаў багасловаў, што ўрэшце „Вучнёўскі Звон"— „дзяцінная часопісь". „Дарослыя" студэнты хочуць вельмі, каб „Вуч. Звон" быў дзяцінай часопісьсю. Мы не адмаўляемся, бо мы яшчэ й дзеці, але студ. Я. Малецкаму і Ф. Леўшы прыдзецца шмат чаму навучыцца ў „Вуч. Звону". А першую лекцыю ім „Вуч. Зв." дае па геаграфіі. Рыторыка нашых „дарослых" студэнтаў усё-ж такі разьбіваецца аб непарушныя жаралы (А. Смоліч).

# З гісторыі разьвіцьця календара, ці, як стары быў запраўды Мафусал?

У першых днях гісторыі людства ня было даўгіх мерак часу. Дзень быў аднэю такою меркаю. Тыдня, месяцаў, году людзі ня зналі. Але патрэба зазначаць найвыгаднейшую пару для сяўбы, каб мець лепшы ўраджай, патрэба падзяліць палявую й хатнюю работы, прывяла нашых продкаў да таго, што яны пачалі шукаць даўжэйшае меркі часу. Гэтым быў дадзены імпульс да разьвіцьця календара, каторы й па сягоньня ўжываецца намі. Чалавек пазьней пачаў рахаваць даўжэйшыя інтэрвалы часу, чымся быў дзень, а такім быў месяц. Тыдзень пачаў ужывацца шмат пазней. Тэрмін паміж поўнямі месяца раўняецца 29,53 днём і чалавек яшчэ ў старыя часы прыхіліўся да круглае лічбы 30 дзён.

Пэрыяд аднаго месяца быў такім чынам „нясьпелым" (няпоўным) годам і адзінкаю, якою ў старую пару доўга мералі час. Гэтым высьвятляецца, што 969 гадоў Мафусалавых было ўласна 969 поўняў і таму жыцьце (век) слаўнага патрыярха трывала ня болей. як нашых 79 гадоў.

Далейшым пэрыядам у разьвіцьці календара была пара, калі рахавалі пяць месяцаў за адзін год. Гэта таму, што лічба пяць (лік пальцаў на руцэ) была першай множнай лічбай, якая ўжывалася ў старыя часы, як падстава ў менавым гандлю й гутарцы. У бібліі зноў-жа можам прасачыць гэтае разьвіцьце. Абраам жыў у тую пару, калі год меў пяць месяцаў і яго традыцыйныя 175 гадоў прадстаўляюць уласна 72 цяпнрашніх.

Вызначным ёсьць наступны крок у развіцьці календара. Першы раз было ўзята пад увагу азначэньне ўсходу й захаду сонца падчас раўнадзеннасьці. Гэтым год здоўжыўся на адзін месяц (стаў 6 месяцаў). Было гэта ў эпоху Якава й яго патомкі доўга яшчэ рахавалі 6 месяцаў за адзін год. Пасьля толькі Майсей даў жыдом практычнейшы ягіпецкі календар, паводле якога адзін год меў 365 дзён. Якаў, які паводле бібліі жыў 147 гадоў, меў нашых толькі 73 з паловай гадоў.

Тыя самыя ступені разьвіцьця календара былі знойдзены і ў індзейцаў паўночнае Амэрыкі, якія ўжывалі пяць пучкоў па 30 прутоў у кожным для абрахунку аднаго году Чырвонаскурыя індзейцы ў паўночна-заходняй Канадзе дагэтуль тайна ўжываюць календар з пяці пучкоў па 30 пру-

тоў у кожным. Год пачынаецца ў той дзень, калі першая вясновая бура прыганяла дождж.

Год з 12 месяцаў, такі, якім цяпер ёсьць, прыдумалі ягіпцяне, якія яго склалі, зьмерыўшы найкарацейшы цень, які кідалі піраміды ў поўдзень і вырахавалі даўжыню дня паміж паасобнымі порамі. Вялікая піраміда, паводле якое складаліся абрахункі, займала плошчу 13 акраў і была збудавана ў вышыню на 484 стапы (крокі). Вялікі прастор, займаны пірамідаю, і дасканалая яе будова дала магчымасьць жрацом абрахаваць часовы інтэрвал паміж найкарацейшымі ценямі, падаўшымі ад пірамід, ня толькі на 365 дзён, але нават на 365,242 дня, што і ёсьць запраўднаю даўжынёю году.

Піраміды былі ўласна вялікімі сонячнымі гадзіньнікамі; яны ўжывалісь на схоў для трунаў ягіпецкіх фараонаў.

Майсей завёў ягіпецкі каляндар. Жыдоўскае рабства ў Ягіпце трывала ад 1706 да 1491 году перад Хрыстом, гэта значыць 215 гадоў. У бібліі-ж чытаем, што трывала яно 430 гадоў, а гэта таму, што біблейская запісь паходзіць яшчэ з часу, калі год меў 6 месяцаў. Ягіпецкі і жыдоўскі каляндар рахаваў 12 месяцаў па 30 дзён кожны, а рэшта 5 дзён было прысьвечана сьвятам. Пасьля заваяваньня Ягіпту рымлянамі, Юлі Цэзар загадаў, каб гэтыя пяць дзён былі прыдзеляны да паасобных месяцаў, а гэта: да студзеня, сакавіка, мая, верасьня й лістапада, бо дні да лішкі былі ўважаны за асабліва шчасьлівыя. Месяц Цэзаравага нараджэньня быў удзячным сэнатам пераіменаваны на Julius (юль) і яму быў прыданы адзін дзень. Augustus (Аўгуст), Цэзараў наступнік, вымог тую самую прывелегію для свайго месяца нараджэньня. Жнівень быў названы August (Аўгуст) і яму таксама быў прыданы 31 дзень, узяты ад лютага. У выніку гэтага сталася тое, што пасьля дзьвох гэтых рэформаў у лютым засталося толькі 28 дзён.

Трэцяя чвертка году мела потым 93 дні, калі першая чвертка мела толькі 90. Гэтая няроўнасьць была часткова папраўлена тым, што 31-ы дзень верасьня быў перасунуты да кастрычніка, які знаходзіўся ў астаўшайся чвертцы. Зьявілася ўсё-ж такі новая нявыгада. Пасьля гэткага перасову йшлі адзін за другім два месяцы па 31 дзень. Аўгуст (Augustus) перасунуў гэты 31-шы дзень з лістапада да сьнежня.

Толькі ў 321 годзе па нараджэньні Хрыста Канстанцін Вялікі завёў у Эўропе тыдзень, які лічыў сем дзён.

І. С—кі.



# Вучнёўская сцэна.

„Колькі новых думак, колькі прыгожства, колькі ахвоты й бадзёрасьці змагла-б выпладзіць сцэна! Колькі новых талентаў мог-бы тэатр скалыхнуць! Якія вялікія магчымасьці адчыніліся-б у змаганьні за беларускую бучыню! Колькі новых людзей узгадавалася-б Беларусі й чалавецтву! Колькі новых змагароў было-б прыдбана — каб мы мелі свой беларускі тэатр"

*Ст. Грынкевіч* („Аб тэатры“).

Гасіцца сьвятло на салі. Падымаецца заслона. Увага ўсіх глядзельнікаў зьвернута на сцэну. Там пяюць, гавораць, плачуць, сьмяюцца, перажываюць, змагаюцца, гінуць. Нам шкада адных, сьмешна з другіх, сорамна за трэціх. Мы бачым здалёку жыцьцё, сапраўднае жыцьцё, злоўленае ў сваім працэсе. Мы хочам сказаць: так, — не, бо маем магчымасьць спасьцерагаць здалёк. Заслона апушчаецца. Застаецца ўражаньне.

Тэатр — гэта супрацоўніцтва. Суфлёр, артыст, сцэнарыус, рэжысэр — гэта сябры коопэрацыі — тэатру. Кожны працуе, кожны памагае, у рэзультаце — грамадзка карыснае ўражаньне, атрыманае глядзельнікам. Тысячы новых людзей творыць тэатр! Для нас, вучняў, тэатр мае асабліва важнае ўзгадаваўчае значэньне. Трэба прызнаць, што мы недаацэніваем значэньне тэатру й мала рупімся аб ім. Праўда, вучнёўская моладзь найбольш праяўляе працы на

гэтым полі, аднак, трэба сказаць, што праца гэтая павінна быць больш продуктыўней. 17 лютага г. г. у нашай Гімназіі адбыўся спэктакль. Былі пастаўлены дзьве п'есы: „На папасе“ — Я. Купалы й „Кветка — папараць“ К. Буйло.

„На папасе“ згралі зусім слаба. Найлепш з усіх артыстаў — вучняў згуляў III-ці падарожны. Незнаёмы зусім ня ведаў ролю. У гутарцы падарожных праз увесь час гульні панавала манатоннасьць, адсутнасьць разуменьня ролі й самае п'есы. Гэта выявілася хоць-бы ў тым, што ў канцы падарожныя гаворацъ аб „запаўшай у іх душы“ песьні, як аб лацінскіх дзеясловах. Зразумела, што віна за ўсе недахопы падае на рэжысэра. Незнаёмы проста імпровізаваў у некаторых мейсцах. Гэткія зьявішчы, зразумелая рэч, недапушчальныя! Сцэнічныя эфэкты таксама не адпавядалі зьместу „На папасе“. Перад усім, уся акцыя адбываецца ў ночы (а на сцэне было вельмі сьветла). Дэкарацыя не выяўляла таксама п'есы. У канцы п'есы мы ня чуем сьпеву сялян — падарожных, у якіх вогнішча ў лесе распаліла вогнішча сьведамасьці ў душах, сагрэла іх у іх безпрасьветным жыцьці. У канцы можна было-б пусьціць на салю паступова узмацняючыся й растучы сьвет, які-б урэшце ахапіў усю публіку — сымбаль разросту народнага руху.

У нашай Гімназіі „На папасе“ стаўлялася ўжо 5-ты раз. Трэба сьцьвердзіць, што найслабей было згуляна ў гэты апошні раз.

У 1923 г., калі ў Гімназіі працаваў над тэатрам вучыцель М. Красінскі, „На папасе“ было найлепш згуляна наагул. Тады Незнаёмага гуляў сьв. пам. Ул. Калаур, які здолеў заваражыць публіку. Вогнішча гарэла ў душах публікі. Дэкарацыі, малёваныя Р. Семашкевічам і Я. Драздовічам, прадстаўлялі зару адраджэньня. Бо-ж „На папасе“ — гэта часы перад рэволюцыяй 1905 году, калі яшчэ народ наш спаў „ад-вечным“ сном. Лявон будзіць народ, Лявон гіне, але яго прапаганда ідэі „годнасьці людзей“ прыносіць ураджай.

Дзе падзеліся гэтыя дэкарацыі? Дзе падзеліся Калауры?

„Кветка—папараць“ выпала лепш. Мужчынскую ролю выпаўніла дзяўчына вельмі добра. Рэцытаваньне аднае з русалак было надзвычай выразнае й прыгожае. Сцэнічныя эфэкты былі лепшыя.

# Нашы песьняры.

**Х. І.**

## ВЯСКОВАЯ ІДЫЛІЯ.

Прапяялі вазы на дарогах.
Серабрыць даль палёў
сярпок—месяц.
Каля плоту на месяца рогі,
Як на злодзея, сабакі брэшуць.
Вёска сьпіць ў серабрыстай
сарочцы,
Толькі ў хатцы, ля самага гаю,
Ваганёк паласіць на
дарожцы...
І туды я, чамусьці, сьпяшаю.
Прытаіўшыся моўчкі, я бачу,
Як ад печкі залоцяцца
сьцены...
У куце сядзіць дзеўчынка й
плача
(Ў лесе тояцца пострахі-цені).
За сталом хлопчык дрэмле,
чакае,
Покі маці згатуе вячэру...
І я чую, як боршч закіпае,
Як чарапае кот каля дзьвераў...

. . . . . . . . . . . .

Ў хаце ціха. Ляглі усе спаці.
У ваконцы глядзіць ягнё —
месяц.
Печку белую, бы сваю маці,
Языком — паласой ліжа,
цешыць.

1929.

**М. М.**

* * *

Зіма... мароз—мая стыхія. -
Люблю, як сівер грэе кроў...
Сьпіць поле... Нівы сьпяць
радныя
Пад гулкі сьпеў завей вятроў.

Цяпер-бы вось наладзіць сані,
Ды гэнь-праз белую гару.
А то у лесе ў ціш на раньні
Малітвай звонкае—а-у...

За тое, што зіма акрэпла,
За солад творчых сноў пад
ёй...
За тое, што вакол так
сьветла
І радасьць пеніцца з грудзёў...

* * *

Поле, поле роднае
Усьпеніла зіма,
Ўдумках зноў вандроўная
Чуецца туга.
Ногі так і просяцца
Мерыць гэту бель,
Дзе з вятрамі носіцца
Ночкамі мяцель.
З воляй так абняўшыся,
Вандраваць бы мне...
З сэрцам закахаўшымся
Ў родным харастве...

**Закінены.**

## ПЕСЬНЯ МОРА.

Ізноў ціхая ноч. Зоркі ў небі горацъ,
І серп месяца сьвеціць высока.
Ліп вяковых лісты ціха, ціха шамрацъ.
Хвалі мора гамоняць далёка
А зялёны трасьнік пахіліўшысь стаяў,
Разам з хвалямі ціха шаптаўся,
Быццам славу вякоў з імі успамінаў
І напеўна шумеў, хваляваўся...
Я над берагам стаў, сумна ў даль пазіраў
На трасьнік і на люстра марское,
Як з ім вецер гуляў, гаманіў, калыхаў
І яно было быццам жывое.
І успомніў я тут вобраз роднай зямлі.
Луг зялёны і роднае поле...
І зялёны трасьнік... Хвалі быстрай Вяльлі, —
Сьляза пала з вачэй мімаволі.
Сумны быў я ўсягды, як чуў шум ліп старых,
Што ад мора расьлі недалёка...
І казалі яны: „Ня убачыш ўжо ты,
І дарэмна сьлязьмі блішчыць вока“.



**Х. І.**

## ГАРМОНЬ ВЯСКОВАЯ.

Заліваецца пераборыста.
Рассыпаецца дробна — дробненька,
Захлынаецца смутна — смутненька.

То расходзіста, няўстрымана
Зашыбае яна радасьць буйную,
Радасьць буйную, маладзецкую.

То ізноў ціха — ціхенька
Плача голасам
Смутна — смутненька
Гармонь вясковая.

1929.

# фотографія.

Слова „фотографія“ паказывае, што для атрыманьня вобраза павінна быць сьвятло. Другім чыньнікам зьяўляюцца пэўныя солі серабра, які‐ складаюць падставу эмульсіі. На эмульсіі пры помачы сьвету атрымоўваем вобраз. Сьвет гэтыя солі раскладае. Пасьля насьвятленьня клішы, у камэры фотографічнай, вобраз ня відомы. Кліша павінна быць праяўлена пры помачы розных соляў, каторыя называюцца праявіцелямі. Дзякуючы гэтаму на тых мейсцах эмульсіі, каторыя знаходзіліся пад дзеяньнем сьвету, выдзеляецца мэталічнае серабро. месцы не насьветленыя застаюцца бяз перамены. Серабро выдзяляецца ў відзе дробненькага чорнага парашку. Калі клішу выставім на сьвятло, дык яна пачарнее, дзеля гэтага мы мусім яе закрапіць, г. ё. распусьціць пазастаўшую соль серабра, каторая не паддалася дзеяньню сьвету й праявіцелю. Пасьля закрапленьня кліша прамываецца й сушыцца. Каб атрымаць фотаграфічную картачку, г. ё. позытыў, трэба пад нэгатыў падлажыць бромасярэбраную паперу і зноў выставіць клішу на дзеяньне сьвету. Пасьля насьвятленьня папера праяўляецца, закрапляецца й картачка гатова.

Фотографію вынайшоў француз Даднеччэ. Ен паслугоўваўся аптычнай камэрай, якая зьяўляецца протатыпам цяперашніх фотографічных апаратаў. Ен ужываў клішы, пакрытыя ёдкам серабра. Даднеччэ насьвятляў клішу некалькі гадзін, пакуль не паказываўся нэгатыўны вобраз. Пазьней ён насьвятляў клішу меншы час і каб вобраз быў выразнейшы зьмяшчаў яе ў ртутныя пары. У гэты час Тальбор вынайшоў закрапіцель, ён занураў клішу у падсярчан соду. Хімін Ніепце ўвёў клішы, пакрытыя курыным бялком з ёдкам патасу. Клішы былі больш чулыя, але ня трывалыя. Каб клішы перыхоўваліся дяўжэйшы час Фры замест бялка ўжыў калёдый. У гэты час пачалі ўжываць праявіцелі пірагамосовы і гідрахіноны.

Маддот (у 1871 г.) і Беунотт (у 1878 г.) вынайшлі сухія клішы.

Сухія клішы, якія ўжываюцца замест мокрых, прыгатаўляюцца пры помачы абліцьця шкляной пласьцінкі вельмі тонкім (0,04 мілл) сьветачулым слоем, які складаецца з мешаніны жэлятыны з бромістым серабром.

**Фёдараў.**

# Бібліяграфія.

*„Пагоня“ (Беларускі-Грамадзка-Навукова-Літэратурны журнал — орган Т-ва Беларускае моладзі у Латвіі) № 1. Рыга.*

У Латвіі пачала выходзіць пад такім назовам новая часопісь беларускае моладзі. З вялікай радасьцю адзначаем гэтую новую здабычу нашае моладзі, і той здаровы дух, які праводзіць гэтая часопісь. У „Ад Рэдакцыі“ выяўляецца ідэйная плятформа „Пагоні“. Працу на „родных адлогах“, працу ў нацыянальным дусе — стаўляюць сваёй мэтай нашыя маладыя браты ў Латвіі. У цэлым радзе артыкулаў, разглядзець якія падрабязна не дазваляе нам недахоп мейсца, даюцца адказы на „мучымыя“ пытаньні, якія нарасьлі ў жыцьці нашае моладзі. Сапраўды, мы, моладзь, стаім цяпер на раздарожжы. Кудыісьці? што рабіць? „Пагоня“ кідае здаровы лёзунг: „працаваць для нашага народу, працаваць над разьвіцьцём роднае культуры й гэтым самым уносіць свае асобныя вартасьці ў скарбніцу а г у л ь н а-л ю д з к а е культуры. Нацыяналізм — гэта духовая крыніца, праз якую можна ўліць у крыніцу агульна людзкіх культурных вартасьцяў долю свайго індывідуальнага вытвару духа. Аднак н е шовінізм, не ультра-нацыяналізм, бо гэта згуба моладзі!

В. Вальтэр у „Да моладзі“ парушае вельмі актуальную й дразьлівую проблему духовага разброду й агрубеньня, якія запанавалі ў моладзі пасьля вайны. В. Вальтэр прыходзіць да вывадаў, што мы ўсё-ж павінны прызнаваць ідэалістычныя імпульсы, бо мы перад усім — моладзь! Ісьці наперад, бязупынна ў сваім духовым удасканаленьні, бо праз накапленьне маральнага сыр'я мы здолеем вырабіць пэўныя маральныя ўстоі.

А галоўнае йсьці наперад! Там мы знойдзем, што нас мучыць сягоньня, бо, „як казаў Караленка — „ў с ё ж т а к і н а п е р а д з е — в а г н і!“

Асобная старонка прысьвечана 10-ым угодкам сьмерці Івана Луцкевіча. Парушана пытаньне сучаснае школы. Асобны куток удзелены народнай творчасьці. Вершы Тураўшчанкі арыгінальныя й, паза некаторымі заганамі, вельмі ўдачныя.

Часопісь мае 24 стр., адбіта літаграфічна. Беларуская моладзь горача вітае выхад „Пагоні“ й шле нашым маладым братом у Латвіі гарачы прывет і пажаданьне посьпеху ў працы з далёкае Вільні!

Ш.

# Народная творчасьць.

Я ў матулячкі была,
Усё работніца была.
Вох люлі харашо,
Усё работніцай была.
Асталася пры сьвякроўцы,
Прыгультаілася.
Вох люлі харашо,
Прыгультаілася.
Пашла малада за вадой,
Прызабавілася.
Вох люлі харашо,
Прызабавілася.
З маладым малайцом
Разгаварывала.
Вох люлі харашо,
Разгаварывала.
Раскіпеўся гаршчок,
У печы стоячы.
Вох люлі харашо,
У печы стоячы.
Расплакалася дзіця,
У калыбелі лежачы.
Вох люлі харашо,
У калыбелі лежачы.
Раскрычаўся сьвікротка,
У запечку седзячы.
Вох люлі харашо,
У запечку седзячы.
А сьвякроўка на палу,
Памагаючы яму
Вох люлі харашо,
Памагаючы яму.
Дзевяр'ё, як зьвяр'ё
Паза столам седзячы.
Вох люлі харашо,
Паза столам седзячы.
А залвіцы, як зьвярыцы,
Усе тыя на мяне.
Вох люлі харашо,
Усе тыя на мяне.
Сядзіць муж на палу,
Абуваецца.
Вох люлі харашо,
Абуваецца.
Мяне біць маладу,
Сабіраецца.
Вох люлі харашо,
Сабіраецца.
А ня бі-ж мяне ўдзень,
Не сьмяшы-ж ты людзей,
Вох люлі харашо,
Не сьмяшы-ж ты людзей.
А бі мяне паначы,
Каб было дзе ўцячы.
Вох люлі харашо,
Каб было дзе ўцячы.

* * *

Ды каліна-маліна
Ня стой над ракою,
Не махай галіною
Не раўняйся са мною.
Было тады раўнавацца,
Як я ў мамачкі была,
Ды беленька хадзіла,
Ды бялей твайго цьвету,
Ружавей тваіх ягад.

* * *

Ды дымна, поля дымна,
Ды нічога ня відна.
На вайне паніч ваюіць,
Па нім матка бядуіць.

— Не бядуй матка па мне,
Не адзін я на вайне,
Пада мной сівы кося,
Высок Бог нада мною.

Запісаў у в. Рабунь, Вялейскага пав.

**Міх. Шчасны.**

# Усячына.

## Як Скрыб жаніўся.

Вядомы францускі драматург Аўген Скрыб, пазнаёміўся з сваёй будучай жонкай пры вельмі цікавых абставінах. Таксама заручыны былі зроблены ў цікавы спосаб, падобна да таго, як ён рабіў у сваіх камэдыях.

Аднойчы, калі Скрыб прышоў па справам да свайго адваката, пры самых дзьвярох кабінэту, спаткаў вельмі прыгожую маладую кабету, якая плакала. Калі ўвайшоў у кабінэт адваката запытаў, ці не ад яго вышла гэтая цікавая асоба, а калі даведаўся што ад яго, спытаў аб няшчасьці яе. Адвакат расказаў цэлую гісторыю. Маладая кабета была жонкай купца, які заблутаўся ў сваіх грашовых справах. Яму трэба было заплаціць вялікую суму грошы 50.000 фр. за падаткі, якіх у яго ня было, а дзеля гэтага ён мусіў збанкрутаваць. Адвакат вельмі шкадаваў, што ня мог дапамагчы сам і не знаходзіў ні аднэй асобы сярод сваіх кліентаў, якія-б маглі ўлажыць свае грошы ў такія небясьпечныя рукі.

Доўга ня думаючы, Скрыб даў адвакату 50.000 фр. і сказаў перадаць іх купцу. Адвакат быў вельмі зьдзіўлены, але Скрыб пастанавіў на сваім, на што адвакат згадзіўся.

Рука ў Скрыба была вельмі лёгкая. Купец заплаціў даўгі і хутка справы паправіліся. Прайшло некалькі гадоў — падыйшоў тэрмін, калі па ўмове, грошы, дадзеныя Скрыбам, мусілі зьвярнуць. Вось аднойчы да яго прыйшла тая самая прыгожая кабета, якую ён спаткаў раней, але на гэты раз у жалобе. У яе ня так даўно памёр мужык. Калі ўсё гэта выясьнілася, Скрыб не хацеў браць грошы.

— Але як-жа? Гэта грошы вашы, якіх я не магу прыняць—сказала яна.

— Можна зрабіць так, што яны будуць н а ш ы, адказаў Скрыб.

Ен тут-жа выясьніў сэрцовую справу і яна... згадзілася.

**Ш. М**



# Вучнёускі Гумар

Пытаюцца сябры ў вучня:

— Чаму ты на паўзах сам з сабой гамоніш?

— Бо я, бачыце, люблю часам пагутарыць з разумным чалавекам.

*

Вучыцель — Ці доўга Адам з Эвай жылі ў раю?
Вучань — Пакуль яблыкі дасьпелі, пане вучыцель.

*

— Чаму ў ночы сабакі больш брэшуць, як у дзень?

— Бо ў дзень ім людзі памагаюць.

*

Вучань першы раз на лекцыі географіі. Вучыцель паказвае пальцам у пэўным мейсцы на карце й пытае:

— Што гэта?

— Палец — адказывае вучань.

*

— Чаму мама мне нічога ня кажа?

— А што я маю табе казаць?

— А вось няхай мне мама скажа: на табе грошы й ідзі сабе ў кіна.

*

— Як вы думаеце, да чаго мае найбольш здальнасьці ваша дачка?

— Напэўна да астранаміі.

— Па чым вы гэта судзіце?

— Бо за кароткі час выўчыла напамяць назовы ўсіх фільмовых зор.

*

На лекцыі.

— Хутка званак?

— Ня ведаю!

— Што-ж, гадзіньніка ня маеш?

— Маю.

— Дык чаму-ж ня носіш?

— Ня выгадна, ведаеш — гіры й т. д.

# Нашы патрэбы.

Шмат хто з вучняў падымаў і падымае цяпер пытаньне стварэньня вучнёўскага клюбу пры нашай гімназіі. Думка гэтая вельмі добрая й пры ахвоце й жаданьні можна яе зрэалізаваць. У 1925 г., між іншым, істнаваў такі клюб. У аднэй з клясаў, вечарам (пераважна ў сьвяты), зьбіраліся вучні, дзе маглі рацыянальна й весяла правесьці час. Клюб меў шахматы, шашкі, кракет, лёто; выпісываліся газэты. Аднак, пасьля выбыцьця абітур'ентаў 1925 г., якія пераважна клапаціліся аб клюбе, клюб заняпаў. Уся маемасьць клюбу, купленая на коопэратыўныя грошы, недзе загінула. Цяпер, зразумелая рэч, трэба пачынаць працу нанова. Аднак з помаччу ў гэтым можа прыйсьці наш коопэратыў, які цяпер добра функцыянуе пад кіраўніцтвам вучыцеля М. Заморына. Зрэштай, можна было-б паставіць вечарыну на гэтую мэту й закупіць неабходныя рэчы.

Можна было-б зарганізаваць клюб вельмі добра: паставіць радыё й т. д.

Пры адпаведным кіраўніцтве й даглядзе клюб змог-бы спрыяць разьвіцьцю вучняў, а галоўнае—прывязаць іх да школы. Вядома, што па-за лекцыямі й навукай вучань павінен мець адпачынак і „разрыўку“.

Пры атсутнасьці мейсца, дзе-б можна было належна правесьці вольны час, шмат вучнаў брындаецца бяз усякай карысьці па вуліцам і... нудзіцца.

Мы самі й павінны ўзяцца за гэтую справу, бо гэта нас перадусім абходзіць!

Больш ініцыятывы й працы, і будзем мець клюб!

## Задачкі ?

### Адказы на задачкі ў № I (2) „В. З.“:

№ 4 — 22 цм.
№ 5 — таму, што ня ведаў знакаў прыпынку.

### Задачка № 6.

Селянін купіў за 100 зл. 100 кароў, цялят і авечак. За карову плаціў ён па 10 зл., за цялё — 5 зл., за авечку — 50 гр. Колькі ён купіў кароў, цялят і авечак?

падаў Ю. Б.

# ХРОНІКА.

16.II. Адбыўся спэктакль-вечарына, ладжаная вучнямі Гімназіі пад кіраўніцтвам вучыцелькі А. Сакаловай. Было пастаўлена: „На папасе“, сцэнічны абразок Я. Купалы й „Кветка-папараць“ К. Буйло.

— 16.II. Была адкрыта выстаўка ручных прац вучаніц Віл. Бел. Гімназіі. Сярод выставачных рэчаў знаходзілася шмат рэчаў па мастацку выкананых. На перщай з раду вечарыне рэчы гэтыя будуць разыгрывацца на лётэрэі.

— У канцы лютага, або пачатку сакавіка, вучні VIII кл. В. Б. Г. наладжываюць літэратурны суд над Марцінам Эдэнам, гэроем такога-ж самага назову раману Джэка Лёндана. Дзеля гэтага, усе вучні, якія захочуць прыняць удзел у гэтым судзе, павінны прачытаць гэты твор.

— Па сканчэньні заняткаў у нашай Гімназіі, вясной, гэт. году мае быць зарганізавана экскурсія ўсяе школы на адно з беларускіх вазёраў.

## Паштовая скрынка.

Дзісенцу. (П-у). Вашыя парады добрыя, аднак трэба было лепш апрацаваць іх. Пачытайце „Як жыць, каб здаровым быць“ (у календары), убачыце, што на гэтую тэму можна напісаць больш і цікавей. Папрабуйце апрацаваць тэму на нова.

Л. Локуціеўскі. Наша часопісь не зьмяшчае такіх твораў. Пашліце гэты верш у „Заранку“.

Ю. Бульба. Задачку зьмяшчаем, хоць яна шмат каму вядома. Прабуйце самамастойна складаць задачкі, калі цікавіцеся гэтым.

Выдавец: Літэратурна-Гістарычны Гурток.

Рэдактар: Рэдакц. Калегія: Ул. Рудніцкі, М. Шчасны, Я. Шалешка.

Адказны Рэдактар: дыр. Р. Астроўскі.

Друкарня Я. Левіна, Вільня, Нямецкая 22.

# Зьмест